Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 3 (91) | Вільня, 4-га красавіка 1936 г. | Год 4-ты.

# Новая тактыка.

Барацьба за родную беларускую школу ў Заходняй Беларусі вядзецца ўжо 20 гадоў. Яшчэ падчас нямецкае акупацыі беларускія культурна-грамадзкія арганізацыі змагаліся за родную школу і ў выніку гэнае акцыі ўдалося адчыніць даволі шмат беларускіх пачатковых школаў ды беларускую вучыцельскую сэмінарыю ў Сьвіслачы.

Падчас так званай „Сярэдняй Літвы“ беларусам удаецца разьвіць школьную акцыю значна шырэй, а ўтвораны пры дэпартаманце Асьветы аддзел беларускага школьніцтва, якім загадываў праф. Браніслаў Тарашкевіч, павялічвае лічбу беларускіх пачатковых школаў на аднэй толькі Віленшчыне да 200 ды арганізуе Беларускую вучыцельскую сэмінарыю ў Барунах і рад вучыцельскіх курсаў у Вільні.

Побач з гэтым існуюць яшчэ беларускія гімназіі: у Вільні, Будславе, Гарадку, Радашковічах, Несьвіжу, Навагрудку і Клецку.

З хвілінаю аднак афіцыяльнага прылучэньня так зв. „Сярэдняе Літвы“ да Польшчы, беларускае школьніцтва паступова, але ў даволі хуткім тэмпе пачынае ліквідавацца. Беларускія арганізацыі на чале з сваім соймавым прадстаўніцтвам вядуць упорную барацьбу за правы на сваю родную школу, але тагачасны эндэцкі ўрад з няменшым упорствам праводзіць масавую ліквідацыю. Паўстае шмат на гэтым грунце конфліктаў.

Сойм і Урад закідаюцца шматлікімі інтэрпэляцыямі беларускіх паслоў і сэнатараў. Урэшце, каб упарадкаваць справу школьніцтва нацыянальных меншасьцяў, Сойм выдае ў 1924 годзе так званую „языковую ўставу“, аўтарамі каторае з'яўляюцца Станіслаў Грабскі і Станіслаў Тугутт. Усе меншасьці галасуюць у Сойме супроць гэнай уставы, але галасамі польскае большасьці яна **31 ліпня 1924 году** прымаецца.

Праз паўгоду—7 студзеня 1925 г. апублікоўваецца загад Міністра Асьветы ў справе выкананьня прынятае Соймам Уставы

Як устава, так яшчэ больш загад Міністра ў справе яе выкананьня, бязумоўна крыўдна агранічваюць правы Беларусаў на родную школу ды ствараюць шмат часта непераможных перашкодаў.

Аднак жаданьне Беларускага Народу мець сваю родную школу так магутнае, што, не зважаючы на ўсе перашкоды, бацькі-беларусы ў працягу 1925 году складаюць дэклярацыі аж на 412 школаў. Урад братоў Грабскіх аднак ніводнае з гэных школаў не адчыняе і толькі пасьля маёвага перавароту ды ліквідацыі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады Віленская Школьная Куратория адчыняе нешта каля 20 школаў беларускіх ды каля 40—утраквістычных (дзьвёхмоўных).

Таварыства Беларускай Школы — гэная найвялікшая тады і, можна сказаць, адзіная культурна-асьветная беларуская арганізацыя, вядзе, зразумела, далейшую барацьбу за родную школу. Аднак акцыя ТБШ ужо ня толькі не дае ніякіх позытыўных вынікаў, але вельмі хутка амальшто ліквідуецца сама.

Зразумела, што гэная амаль што поўная ліквідацыя гурткоў ТБШ на правінцыі адбываецца прымусова па загаду адміністрацыйнае ўлады, якая абвінавачвае сяброў ТБШ ў камуністычнай рабоце. Ці ўлада мела падставы рабіць такі закід ТБШ?

У некатарых выпадках бязумоўна так, бо-ж камуністы сьвядома ці несьвядома бязупынна ў сваіх лістоўках, праклямацыях ды іншых партыйных выдавецтвах стала падкрэсьлівалі, што ТБШ знаходзіцца ледзь не пад іх бэспасрэдным кіраўніцтвам.

Фактычна гэта было зусім інакш, бо толькі некатарые гурткі ТБШ падпалі пад уплыў камуністаў, але гэтым самым далі падставу адміністрацыі да амаль што пагалоўнай ліквідацыі гурткоў Т-ва.

У гэтым сумным зьявішчы завініла шмат і цэнтральнае кіраўніцтва Т-ва, бо-ж у той час, калі ў ім адыгрывалі галоўную ролю паслы Гаўрылік і Дварчанін, яны самі ня толькі не процідзеялі ўлажаньню камуністаў у гэную арганізацыю, а здаецца, наадварот, часта выкарыстоўвалі яе для сваіх палітычных мэтаў.

Як бы там урэшце ня было, аднак, аб'ектыўна кажучы, трэ' сьцьвердзіць, што камуністы бязумоўна справакавалі ТБШ і гэтым ня мала спрычыніўся да яго ліквідацыі. Усё гэта дзеялася яшчэ за доўга да VII кангрэсу Комінтэрну і дзеля таго няма нічога дзіўнага ў тым, што нашым дамарослым камуністам, ня маючым фактычна послуху для свае нелегальнае працы сярод шырокіх масаў беларускага народу, трэба было ўлазіць у гэную легальную арганізацыю, каб пахваліцца перад сваім маскоўскім начальствам хоць якою-небудзь дэструкцыйнаю працаю. Ясна, ўся іхняя бязглуздая дэструкцыя палягала толькі і выключна на такім-жа бязглуздым паўтараньні стэрэотыпных завучаных сказаў як: падрыхтоўка вайны супроць СССР, наступ фашызму, капіталізму і т. п. „ізму“.

На гэтым палягала фактычна праца большасьці нашых камуністаў, якія, зразумела, ня толькі нічога не дасягнулі ў справе пашырэньня маскоўскае ідэі, але наадварот, пашкодзілі толькі сапраўднай барацьбе беларускага народу за яго натуральныя правы.

У сучасны мамэнт, здаецца, справа прадстаўляецца зусім інакш—прынамсі фармальна.

Маскоўскія камуністы, а за імі і ўсе іншыя на VII камуністычным кангрэсе ўрэшце прызналі свае папярэднія памылкі (што праўда гэта ня першыня).

Прызналі, што ня толькі нельга заганяць у чамбул усіх тых, хто інакш думае чымсь яны, але, наадварот, і самім трэба ўваходзіць ува ўсе некамуністычныя арганізацыі (ня выключаючы нават арганізацыяў рэлігійных) ды ў свае арганізацыі трэба прыймаць таксама некамуністаў. У пункце 5 тым рэзалюцыі VII сусьветнага кангрэсу Камуністычнага Інтэрнацыяналу, прынятай 1. VIII. 1935 г. па адчотнаму дакладу тав. Вільгельма Піка даслоўна сказана: „прыняць неадкладныя меры для пераадаленьня сэктанцкай замкнутасьці раду камсамольскіх і партыйных арганізацыяў, абавязаць камсамольцаў увайсьці ўва ўсе створаныя буржуазна - дэмакратычнымі, рэформіцкімі і фашысцкімі партыямі, а таксама рэлігійнымі аб'еднаньнямі масавыя арганізацыі...“

У пункце 3-м гэнае рэзалюцыі чытаем:

„...“ кангрэс абавязвае ўсе

(Канец на 2 стар.).

*З прычыны неакуратнага прысыланьня падпісчыкамі належных за газэту грошай, Рэдакцыя апынулася ў досыць цяжкіх матэр'яльных варунках, што змусіла перарваць у м-цах лютым і сакавіку выдаваньне „Роднага Краю“. Ад м-ца красавіка газэта ізноў будзе выходзіць нармальна.*

*Перапрашаючы нашых падпісчыкаў за незалежны ад нас перарыў, просім у будучыні акуратна прысылаць грошы за атрымоўваную газэту. Аднача сна засьцерагаем, што ўсім, хто наўрэгулюе належнай платы за газэту, высыланьне газэты будзе спынена.*

## Кароткі агляд дзейнасьці Сойму.

У мін. суботу, 28 г. м. скончылася звычайная сэсыя Сойму. На гэтай апошняй сэсыі прыняты цэлы рад новых законаў, якія маюць важнае значэньне ў жыцьці Польшчы. Важнейшыя з іх наступныя:

1) Скарбовы закон уключна з бюджэтным прэлімінарам на 1936-37 год.

2) Праэкт закону, які зьмяняе, на карысьць сялянства, распараджэньне Прэзыдэнта з 1934 г. у справе конвэрсыі (замена доўгу на іншы, пр. кароткасрочны, на доўгасрочны і т. п.) і ўпарадкаваньня земляробскіх даўгоў.

3) Вэксальны закон і закон аб чэках.

4) Закон аб лётэрыйным манаполю.

5) Умова ў справе адшкадаваньня за нешчасьлівыя здарэньні пры працы і за прафэсіянальныя хваробы, а такжа ўмова ў справе веку дапушчаньня дзяцей да непрамысловых работаў.

6) Закон аб пашпартох.

7) Закон аб рытуальных бойнях.

Апрача таго Сойм прызнаў Ураду паўнамоцтвы выдаваньня законаў у часе бязьдзейнасьці Сойму і калі гэтага будзе вымагаць неабходнасьць дзяржаўнага жыцьця.

Ня менш працы палажыла і соймавая адміністрацыйна - самаўрадавая камісія, у якой у працягу 2-х месяцаў адбылося 26 паседжаньняў. На гэтых паседжаньнях камісія канчальна апрацавала тры законы: службовую прагматыку, дысцыплінарны закон і закон аб заработнай плаце. Справа даручэньня тэрыторыяльнаму самаўраду выконваньня некаторых абавязкаў у галіне школьнай адміністрацыі адсрочана да мамэнту ўнясеньня Урадам у праэкт гэтага закону канкрэтных паправак. Апрача таго камісія апрацавала закон аб рытуальных бойнях.

—·—

Прыглядаючыся да дзейнасьці сучаснага Сойму, трэба сказаць, што ў напрамку апрацаваньня новых, рацыянальных формаў парлямантарнай працы, Сойм асягнуў ужо пэўныя пазытыўныя вынікі. Другой характэрнай рыскай сяньняшняга Сойму зьяўляецца большая—ў параўнаньні з папярэднімі Соймамі самастойнасьць паслоў у справах, якія імі рашаюцца і большая незалежнасьць пасольскае працы ў адносінах да Ураду.

сэкцыі Камуністычнага Інтэрнацыяналу ў найкарацейшы тэрмін пераадалець перажыткі сэктанцкіх традыцый, перашкаджаўшыя знайсьці доступ да соцыял-дэмократычных рабочых і зьмяніць мэтады агітацыі і прапаганды, насіўшыя дагэтуль нярэдка абстрактны і мала даступны для масаў характар, надаўшы ёй падвойна канкрэтны, зьвязаны з беспасрэднымі патрэбамі і штодзеннымі інтарэсамі мас напрамак“.

У сучасны мамэнт, калі ізноў пачынаецца шырокая акцыя за беларускае школьніцтва, сярод усяго стаячага на нацыянальным грунце беларускага грамадзянства, вычуваецца пэўная трывога, каб не паўтарылася тое, што ўжо раз так сумна скончылася.

Беларускі народ з сваіх слушных дамаганьняў ў справе роднае школы хоча мець позытыўныя безпасрэдныя вынікі, і ў справе заспакаеньня сваіх культурна-нацыянальных патрэбаў беларускія масы заўсёды былі, ёсьць і будуць аднадумнымі.

Толькі вяршкі нашае інтэлігенцыі не маглі дасюль зразумець гэтае так простае і яснае рэчы ды вечна грызьліся памі-ж сабою дзеля асабістых амбіцыяў,забываючыся аб важным і галоўным.

Калі беларускі народ дамагаецца свае роднае школы, дык ён гэта робіць не дзеля таго, каб прыблізіць мамэнт сусьветнай камуністычнай рэвалюцііі, як гэтага жадаюць камуністы, а дзеля таго, каб даць якраз асьвету сваім дзецям ды даць ім магчымасьць самастойна крытычна разглядаць усе зьявішчы, якія праходзяць перад іх вачыма, навучыць іх цьвяроза заглядацца на жыцьцё ды бяскрытычна не паддавацца ніякім падшэптам—ані справа,ані зьлева.

Т-ва Бвларускае Асьветы ў сваёй дзеяльнасьці ўвесь час мела на ўвазе гэтыя імкненьні народу да роднае школы і бязупынна, ў меру сваіх магчымасьцяў, старалася ў гэтым яму дапамагчы. Між іншым амаль у кожным нумары „Роднага Краю“, ў працягу апошніх 4-х гадоў абгаварывалася гэтае балючае пытаньне.

Дзякуючы акцыі ТБА ўдалося адчыніць некалькі беларускіх пачаткавых школаў ды ўтрымаць пры жыцьці адзіную беларускую Гімназію ў Вільні.

Нажаль, у гэты самы час іншыя беларускія арганізацыі не зварочвалі належнае ўвагі на пытаньне беларускага школьніцтва і толькі чамусьці цяпер Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя выступіла ў гэтай справе супольна з ТБШ.

Ці-ж справа беларускага школьніцтва ў папярэднія гады 1930-1935 стаяла ў нас шмат лепш, што ані БХД ані ТБШ не ўважалі за патрэбу ісьці ў гэтай справе адзіным фронтам з усімі бяз вынятку беларускімі арганізацыямі?

Зразумела — лепш позна чымсь ніколі!, толькі тут насоўваецца адно „але“.

Бо-ж калі і гэтым разам адным ідзе толькі аб пашырэньне сваіх уплываў сярод шырокіх беларускіх масаў, а другім — аб іншыя мэты, дык ясна, што з гэтага карысьці ня будзе, а толькі шкода для беларускае справы. Аб гэтым мы павінны памятаць.

Ясна, што кожнаму здароваму беларусу, мазгі каторага не затуманены ніякімі вузкапартыйнымі доктрынамі, ходзіць аб адно: — аб школу ў роднай беларускай мове для свайго дзіцяці і дзеля гэтага кожны, хто хоча яму памагчы ў гэтай справе, няхай ідзе толькі з адным гэтым жаданьнем, ідзе шчыра, адкрыта і чэсна!

Свае практычныя рады, як адчыніць беларускую школу падамо ў наступным нумары.

## Гаспадарчая Нарада ў Варшаве.

Ужо некалькі гадоў на ўсім сьвеце шалее эканамічны крызыс, выклікаwы зьмененымі ўмовамі пасьля-ваеннага жыцьця. Не абмінуў ён нават такіх багатых краёў, як Злучаныя Штаты ў Амэрыцы, дзе лічба безработных дайшла да 12 мільёнаў чалавек. Між іншым, у больш прамысловых краёх крызыс прыняў больш вострую форму.

Раней шмат каму здавалася, што эканамічны крызыс, як пераходнае зьявішча, міне сам сабой. Аднак праходзілі гады, а крызыс ня толькі не зьмяншаўся, але, наадварот, у шмат якіх краёх з кожным годам павялічваўся, і таму ўрэшце ўрады розных дзяржаваў рознымі спосабамі пачалі змаганьне з эканамічным крызысам.

У нас, у Польшчы, таксама сьпярша глядзелі на крызыс, як на нешта часовае, што міне само сабой. І толькі цяперашні ўрад пачаў сур'ёзнае змаганьне з крызысам. З гэтаю мэтаю ўрад між іншым склікаў Гаспадарчую Нараду, якая адбылася ў Варшаве ў канцы лютага і пачатку сакавіка гэтага году. На Нарадзе былі апрача вышэйшых урадоўцаў і прадстаўнікі розных галінаў гаспадарчага жыцьця, а таксама вучоныя-спэцыялісты, ўсяго разам 270 чалавек.

На Нарадзе прызнана неабходным патаненьне пазыкаў для промыслу і рамясла, што абнізіць кошт вытворчасьці. Дзеля гэтага трэба абнізіць процант, які плацяць за ўклады ў банках і ашчадных касах.

Найбольш важнымі зьяўляюцца пастановы Нарады, у якіх гаворыцца аб неабходнасьці перагляду падаткаў, аб спэцыяльных льготах для промыслу, зьвязанага з падняцьцем гаспадарчага дабрабыту прыгранічных земляў, аб падтрыманьні дробных рамесьнікаў, аб абмяжаваньні дзейнасьці картэляў і аб далейшым дапасаваньні цэнаў фабрычнага вырабу да цэнаў земляробскіх тавараў.

Нарада зьвярнула належную ўвагу на справу вывазу нашых тавараў заграніцу ці то ў сырым відзе, ці то ў форме выробленага тавару і на прывоз з заграніцы, слушна падчырківаючы той факт, што ўсюды, дзе гэта можна зрабіць, трэба імкнуцца да замены прывазных тавараў таварамі мясцовага паходжаньня і вырабу. Зразумела, што пастановы і пажаданьні Нарады ня могуць быць усе адразу праведзенымі ў жыцьцё. Аднак трэба спадзявацца іх паступовай рэалізацыі, што павінна спрычыніцца, калі не да поўнай ліквідацыі эканамічнага крызысу, то прынамся да затрыманьня далейшага разьвіцьця таго-ж самага крызысу, які ў іншых краёх прыняў шмат вастрэйшую, ці інакш цяжэйшую форму, чымся ў нас.

Гаспадарчая Нарада паказвае, што ўрад уважае крызыс за такое зьявішча, з якім трэба змагацца. І калі гэта зразумеюць і шырэйшыя колы грамадзянства, гаспадарчае жыцьцё пацячэ сваім нармальным рэчышчам, зносячы перашкоду ў форме эканамічнага крызысу, цяжар якога адчувае і кожны з нас. *В.*

## З украінскага жыцьця.

Як ведама ў сучасны мамэнт ундаўцы апанавалі амаль усе галіны эканамічна-гаспадарчага жыцьця.

Маючы сваё парлямэнтарнае прадстаўніцтва ў польскім Сойме і Сэнаце, ундаўцы спрытна выкарыстоўваюць сваё ўпрывілеяванае палажэньне, дастаючы ўсе магчымыя канцэсыі.

Аднак, не зважаючы на ўсё гэта, ім не ўдалося стацца адзінымі панамі палажэньня ў грамадзкім і палітычным жыцьці.

Вялікім канкурэнтам ундаўцаў у сучасны мамэнт зьяўляецца Д. Паліеў, які згуртаваў каля сябе даволі значную групу ўсіх нездаволеных з палітыкі Ундо.

Паліеўцы выдаюць дзве ўкраінскія часопісі — „Бацькаўшчына“ і „Украінскія Вісты“. На старонках гэных часопісаў паліеўцы пачалі шырокую акцыю за так званы„фронт украінскай еднасьці“.

Акцыя паліеўцаў пашыраецца, ды з кожным днём здабывае сабе новых сымпатыкаў нават сярод ундаўцаў, нездаволеных з Ундо за яго ўгоду з польскай „санацыяй“.

У выніку барацьбы гэных дзьвёх украінскіх групаў пачалася жорсткая палеміка ў іх прэсе — палеміка, якая па сваёй форме прыпамінае нам колешнюю лаянку Антона Луцкевіча з кожным „інакомысьлячым“.

Ня ведаючы дакладна ўкраінскага жыцьця і тамашніх грамадзкіх суадносінаў, трудна вырашыць, якая з змагаючыхся групаў мае слушнасьць. Аднак аб'ектыўна трэба сьцьвердзіць, што форма палемікі Паліева бязумоўна стаіць шмат вышэй хоць-бы ўжо дзеля таго, што гэны чалавек мае цывільную адвагу падпісвацца пад высоўванымі закідамі ўласным імем, у той час, як ягоныя праціўнікі з „Діла“ карыстаюцца пераважна анонімамі.

## На далёкім Усходзе.

Не зважаючы на завярэньне японскага прэм'ера міністраў Гіроты, што пакуль ён міністрам вайны ня будзе, на далёкім Усходзе неспакойна. У мінулым тыдні ізноў была стрэляніна на савецка-манджурскай граніцы, стрэляніна, якая пацягнула за сабою ахвяры ў людзях з абодвых бакоў.

Японскі і Савецкі Урад з гэнае прычыны абмяняліся нотамі-пратэстамі, абвінавачваючы адзін другога ў сьвядомым выкліканьні падобных інцыдэнтаў.

Савецкая газэта „Ізвестія“ ўзвальвае ўсю віну на тую частку японскае арміі, якая нездаволена з мірнае палітыкі ўраду Гіроты.

Відаць, што, не зважаючы на „мірныя“ тэндэнцыі, абодва бакі гатуюцца да вайны, чакаючы адпаведнага міжнароднага мамэнту, Саветы, як падаюць газэты, заключылі тайны дагавор з Кітайцамі супроць Японіі.

Паводле гэтага дагавору Саветы прыраклі спыніць камуністычную прапаганду ў Кітаі ды памагчы Нанкінскаму ўраду матэр'яльна.

# У восемнаццатыя угодкі.

Нядаўна, бо толькі 25 сакавіка, усё сьведамае беларускае грамадзянства сьвяткавала вялікі дзень — угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Гэта былі ўжо ажно восемнаццатыя ўгодкі і восемнаццатае сьвяткаваньне, бо беларусы штогод ад 25. III-1918 г. па меры магчымасьці ладзяць розныя ўрачыстасьці, прыпамінаючы важны для нашага народу факт і дзень.

Чым-жа адзначыўся гэты дзень 25 сакавіка 1918 г., што ўспамін аб ім выклікае ў нас нейкія радасныя пачуцьці? чым адрозьніўся ён ад жудасных дзён вайны і рэвалюцыі, якія бязжаласна зьніштажалі нашу прыгожую краіну? —

Варта сказаць аб гэтым некалькі слоў.

Калі глянем у гісторыю беларускага адраджэнскага руху, дык пабачым, што прыгатаваньні да таго, што здарылася ў памятны для нас дзень, пачаліся ажно ад расейскае рэвалюцыі 1905 г. Гэта ня былі прыгатаваньні ў поўным сэнсе слова, а толькі „прыгатаваньні прыгатаваньняў“, якія палягалі на шырокай нацыянальна-адраджэнскай працы, пранікаючай што-раз глыбей у народную масу. Беларускі рух зрабіўся агульным і захапіў сабой шырокія пласты сялян і работнікаў. Яшчэ больш разварушылі яго сусьветная вайна і расейская рэвалюцыя ў 1917 г.

Таму нічога дзіўнага, што, калі падалі апошнія ланцугі векавога царскага ўціску, а падняволеныя народы пачалі будаваць сваё самастойнае жыцьцё, і беларусы падалі свой голас.

5-га сьнежаня 1917 г. у Менску, галоўным цэнтры тагачаснага адраджэнскага руху, сабраўся Вялікі Усебеларускі Зьезд. З усіх бакоў вялікае Краіны зыйшліся і зьехаліся прадстаўнікі сялян і работнікаў, каб выразіць волю ўсяго народу. Іх было каля 2000.

Зьезд працаваў у вельмі цяжкіх абставінах, бо ня было ніякіх грошай на ўтрыманьне яго сяброў,а тагачасныя бальшавікі, пабачыўшы, якім гарачым нацыянальным духам ахоплены дэлегаты беларускага народу, зразумелі, што ня здолеюць выкарыстаць Зьезд для сваіх мэтаў і разагналі яго. 17-га сьнежня Ўсебеларускі Зьезд перастаў існаваць, але яго працы не прапалі дарма, бо ў Менску засталася Рада Першага Усебеларускага Зьезду.

Рада Зьезду мела ў сваім складзе больш як 50 асобаў, найбольш прыгатаваных да працы. Яны зьбіраліся на патаемных паседжаньнях і абгаварвалі актуальныя пытаньні. На адным з такіх паседжаньняў быў выбраны Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага Зьезду, разьмяркаваны па ліку сваіх сяброў так, каб у патрэбную хвіліну ён мог адразу стацца ўрадам беларускае дзяржавы. У склад Выканаўчага Камітэту ўвайшлі таксама прадстаўнікі нацыянальных меньшасьцяў Беларусі. Выканаўчы Камітэт актыўна ўзяўся за працу. Былі нават спробы зарганізаваць беларускія вайсковыя сілы, але з гэтага нічога ня выйшла, бо ня было грошай.

У лютым 1918 г. Выканаўчы Камітэт выдаў першую „Устаноўчую Грамату“, якой абвесьціў сябе тымчасовай уладай на Беларусі. Аднак гэтая „ўлада“ трывала нядоўга, бо 25 лютага Менск занялі немцы.

Але і тут адраджэнцы не перарвалі свае працы. 9 сакавіка Выканаўчы Камітэт выдаў другую „Грамату“, каторая была як-бы малой констытуцыяй Беларускай Народнай Рэспублікі.

У гэтым часе розныя гарадзкія і земскія арганізацыі-самаўрады, якім немцы не давалі магчымасьці самастойна разьвівацца, зьліліся з Народным Сэкрэтарыятам, вельмі павялічваючы яго колькасна. Такім чынам стварыўся новы ворган, які

## Нямеччына супроць вэрсальскага ладу ў Эўропе.

У сусьветнай вайне, як ведама, дзяржавы Антанты (Англія, Францыя, Італія і Бэльгія) перамаглі Нямеччыну і змусілі яе да падпісаньня вэрсальскага трактату, па якому на Нямеччыну быў наложаны цэлы рад забавязаньняў, між іншым, абмежавана колькасьць нямецкага войска і вааружэньня ды забронена Нямеччыне трымаць войска ў прырэйнскай пагранічнай з Францыяй і Бэльгіяй паласе на 50 кілёмэтраў ад граніцы. Апошняе абмежаваньне правоў Нямеччыны было пацьверджана і лёкарнаўскім дагаворам, падпісаным дзяржавамі Антанты і Нямеччынай у 1925 г.

Усе калёніі ў іншых часьцінах сьвету ад Нямеччыны адабралі і падзялілі між сабой ізноў-жа дзяржавы Антанты.

Цэлы рад абмежаваньняў правоў быў наложаны і на тыя дзяржавы, якія ў сусьветнай вайне былі саюзьнікамі Нямеччыны, як: Аўстрыя, Вэнгрыя, Баўгарыя.

Такім чынам у Эўропе пасьля сусьветнае вайны запанаваў, так званы, вэрсальскі лад, пабудаваны на вэрсальскім трактаце, з падзелам дзяржаваў Эўропы на пераможаных, як Нямеччына, Аўстрыя, Вэнгрыя, Баўгарыя і пераможцаў з Англіяй ды Францыяй на чале.

Аднак з часам Нямеччына, карыстаючыся з нязгоды між пераможцамі, паступова і сыстэматычна выракаецца тых забавязаньняў, якія на яе налажыў вэрсальскі трактат, матывуючы свае паступкі тым, што нямецкі народ ня можа быць адказным за сусьветную вайну, бо-ж яго віна ў гэтым такая-ж ак і іншых народаў, прымаўшых удзел у вайне, і таму нямецкі народ дабіваецца роўных правоў з іншымі народамі і мусіць кіраваць сам сваім лёсам.

І сапраўды, Нямеччына перастае плаціць грошы за шкоды, зробленыя ў часе вайны ў Бэльгіі ды Францыі, ці інакш перастае плаціць кантрыбуцыі, потым пачынае заводзіць у сябе, забароненае вэрсальскім трактатам, аружжа, далей уводзіць агульную вайсковую павіннасьць (год таму назад), адразу павялічваючы ў некалькі разоў сваё войска, у шыбкім тэмпе будуе вайсковыя самалёты ды вайсковы флёт, а ўрэшце 7 сакавіка гэтага году ўводзіць сваё войска ў прырэйнскую пагранічную паласу, чым цалком перачырківае лёкарнаўскі дагавор і пэўныя параграфы вэрсальскага трактату.

Адначасна з заняцьцем войскам прырэйнскай паласы, нямецкі ўрад запрапанаваў пачаць новыя перагаворы, у якіх Нямеччына можа прыняць удзел, як зусім роўнаправўны сябра.

Такі паступак нямецкага ўраду ўстрывожыў дзяржавы, падпісаўшыя лёкарнаўскі дагавор, галоўным чынам Францыю, парлямант якой, за некалькі дзён перад заняцьцем нямецкім войскам пагранічча, зацьвердзіў саюз Францыі з Савецкай Расеяй, што нямецкі ўрад палічыў за нарушэньне, а нават і зьніштажэньне дагавору ў Лёкарно, цьвердзячы, што ваенны саюз Францыі з Савецкай Расеяй скіраваны ў першую чаргу супроць Нямеччыны.

Пад уплывам устрывожанай Францыі прадстаўнікі лёкарнаўскіх дзяржаваў нараджаліся над вытварыўшымся палажэньнем спачатку ў Парыжы, а потым у Лёндане, куды была склікана і Рада Лігі Народаў, якая дагэтуль свае паседжаньні адбывала звычайна ў Жэнэве, у Швайцарыі. Скліканьне Рады Лігі ў Лёндане мела мэтай запрасіць на паседжаньне Рады і нямецкіх прадстаўнікоў, якія пры сучасных напружаных адносінах між Нямеччынай і Швайцарыяй у Жэнэву не паехалі-б.

Аднак лёнданскія перагаворы ды нарады нічога канкрэтнага не далі, пацьвердзіўшы лішні раз адсутнасьць згоды між дзяржавамі Эўропы, з якіх кожнае мае на мэце перадусім свае собскія інтарэсы, адсоўваючы на другі плян агульнаэўрапэйскія інтарэсы. Ізноў-жа ў Лёндане найяскравей выявілася бясьсільле Рады Лігі пры вырашэньні пытаньняў аб ваеннай небясьпецы, пагражаючай Эўропе, бо-ж у самой Радзе няма роўнасьці між яе сябрамі і большыя дзяржавы заўсёды стараюцца накінуць свае пастановы ўсей Радзе, аб чым галасна заявіў на паседжаньні Рады прадстаўнік Польшчы. Пры такім настроі Рада Лігі толькі сьцьвердзіла нарушэньне Нямеччынай вэрсальскага трактату, але аніякіх мераў супроць гэнага нарушэньня не прыняла, адлажыўшы свае паседжаньні на неабмяжованы час. Прыехаўшыя ў Лёндан нямецкія прадстаўнікі на паседжаньні Рады Лігі запратэставалі супроць абвінавачваньня Нямеччыны ў нарушэньні лёкарнаўскага дагавору, ізноў-жа падчырківаючы, што першая скасавала гэны дагавор Францыя, зрабіўшы ваенны саюз з Расеяй.

Акром паседжаньняў Рады Лігі ў Лёндане адбываліся ўсьцяж нарады лёкарнаўскіх дзяржаваў, у выніку чаго былі апрацаваны пэўныя прапазыкі нямецкаму ўраду, на якія апошні згадзіўся даць адказ толькі пасьля выбараў у нямецкі парлямант, якія адбываліся ў нядзелю 29 сакавіка гэтага году. Аднак і апрацаваныя Англіяй ды Францыяй прапазыкі дагэтуль не падпісаны Італіяй, якая ваюе з Абісініяй, таксама сябрам Лігі Народаў, цераз што Рада Лігі яшчэ раней часткова ўжыла санкцыяў супроць Італіі і завастрыла адносіны апошняй да Англіі, аб чым добра помніў нямецкі ўрад пры выдаваньні загаду аб заняцьці сваім войскам пагранічнай паласы, разьлічваючы на тое, што аб ніякім супольным выступленьні вялікшых дзяржаваў Эўропы ў сучасны мамэнт ня можа быць і мовы. Так яно і сталася. Не зварочваючы ўвагі на розныя вусныя ці папяровыя пратэсты, Нямеччына заняла сваім войскам важную ў ваенным значэньні пагранічную паласу, у якой сканцэнтраваны ваенны промысел і гэтым шагам нанясла яшчэ адзін удар існаваўшаму да гэтага часу вэрсальскаму ладу ў Эўропе. І як-бы не пайшлі здарэньні ў будучыні ў адным можна быць пэўным, што вэрсальскі лад у Эўропе доўга не пратрымаецца. На зьмену яго ўжо ідзе новы, не-вэрсальскі парадак, рэха якога можа адбіцца і на нашым беларускім жыцьці.

*П-га.*

## Конфэрэнцыя трох дзяржаў у Рыме.

Замежная палітыка Аўстрыі і Вэнгрыі ад пэўнага часу знаходзіцца пад уплывам Італіі, аб чым найлепш сьведчаць адносіны Аўстрыі і Вэнгрыі да санкцыяў, прынятых Лігай Народаў і скіраваных супроць Італіі за яе вайну ў Афрыцы. Хоць Аўстрыя і Вэнгрыя зьяўляюцца сябрамі Лігі, аднак ад выпаўненьня санкцыяў яны адмовіліся, цераз што значна аслабілі рэзультаты правядзеньня санкцыяў у жыцьцё.

Адмова Нямеччыны ад выпаўненьня вайсковых параграфаў вэрсальскага трактату ўстрывожыла ня толькі Францыю ды Бэльгію, але і цэлы рад іншых эўрапэйскіх дзяржаў. Стварыўшаеся цераз гэную адмову палажэньне ў Эўропе і было тэмай конфэрэнцыі ў Рыме прадстаўнікоў Італіі, Аўстрыі ды Вэнгрыі.

Італія ў сучасны мамэнт вельмі занята каштоўнай для яе вайной у Афрыцы, якую яна, пэўне, спадзявалася кончыць хутчэй і якая, здавалася-б, адцягне ўвагу Італіі ад эўрапэйскіх спраў.

Аднак апошнія падзеі на эўрапэйскім грунце занадта важныя і маюць для Італіі ня меншае значэньне, як вайна ў Афрыцы. Вось чаму, зараз-жа пасьля заняцьця нямецкім войскам прырэйнскай паласы, у Рыме адбылася нарада трох успомненых вышэй дзяржаў дзеля яшчэ большага зьбліжэньня, бо-ж усе яны бачаць перад сабой пэўную небясьпеку з боку мацнеючай з кожным днём Нямеччыны. Можа стацца так, што і Аўстрыя і Вэнгрыя ў недалёкай будучыні ня толькі выйдуць з-пад уплыву Італіі, але стануць новымі пляцоўкамі нямецкай экспансіі. Ясна, што пры так зьмененым палажэньні Італіі ня вельмі прыемна будзе мець новага магутнага суседа.

**Прысылайце падпіску на газэту „РОДНЫ КРАЙ“.**

## Ваеннае палажэньне ў Бразыліі.

З Ріо-дэ-Жанэйро паведамляюць, што прэзыдэнт рэспублікі выдаў дэкрэт, які адклікае „надзвычайнае палажэньне“ ў краі і адначасна ўводзіць на неабмяжованы час ваеннае палажэньне.

У дэкрэце неабходнасьць увядзеньня ваеннага палажэньня абасноўваецца тым, што камуністычныя падпольныя арганізацыі ня спыняюць сваей антыдзяржаўнай дзейнасьці, а ў апошні час нават значна ўсілілі яе.

Зараз-жа пасьля апублікаваньня гэтага дэкрэту былі арыштованы сэнатар Авель Шэрмок і дэпутаты-камуністы Мангабэйр, Гастос, Велесхо і Сілёвейра.

**Пашырайце нашу газэту.**

## Італіянскія дамаганьні.

Рымскія корэспондэнты парыжскіх газэтаў паведамляюць, што італьянскі ўрад у ніякім прыпадку ня дасьць якіх-небудзь вяжучых абяцаньняў Францыі і Бэльгіі (у сувязі з заняцьцем здэмілітарызаванай прырэйнскай паласы Гітлерам) да сваёй поўнай рэабілітацыі.

Дамаганьні Італіі, паводле слоў „Матэн-у“, наступныя:

1) спыненьне адносна Італіі санкцыяў,

2) адмен жэнэўскага прыгавору, каторым Італія была прызнана віноўнай у нападзе на Абісінію і 3) новая дыскусія ў Радзе Лігі Народаў, вынікам якой павінна быць заяўленьне, што італьянскі паход на Абісінію быў пачаты ў імя справядлівасьці і цывілізацыі, і што было-б праступкам аружнае падтрымоўваньне варварскіх плямёнаў проці экспэдыцыйнага корпусу, які нясе цывілізацыю.

## Унутраная вайна ў Кітаі ўсьцяж трывае

Як паведамляюць газэты, дзяржаўныя войскі ў правінцыі Шансі адсунулі 2-тысячны камуністычны атрад за раку Хоанг-Хо. Камуністы, выціснутыя з Юан-Ван, пасьля 2-месячнага прабываньня ў гэтым горадзе, прарваліся ў правінцыю Квэй-Чоў і занялі мясцовасьць, паложаную ў 150 кіл. на паўдзённым усходзе ад Квэй-Чоў.

У правінцыі Хонзеі пазаўчора зьявіўся 2-тысячны камуністычны атрад і пасунуўся на 150 кіл. на паўдзённы-захад ад Тзянь-Тзіна. Войскі аўтаномага ўраду правінцыі Хонзеі і Чахар пачалі перагаворы з камуністамі. Японскія кругі, устрывожаныя палажэньнем у правінцыі Хонзеі, заявілі, што яны гатовы абараняць аўтаномны ўрад аружнай сілай

на паседжаньні прыняў назоў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Праца кіпела. Аднак было немагчыма зрабіць нешта рашучае, бо непраходныя „фронты“, разразаючы Беларусь на дзьве часткі, аддзялілі Менск ад Вільні, другога важнага адраджэнскага цэнтру. Тымчасам тут таксама беларусы ня спалі і ў лютым 1918 г. зарганізавалі Віленскую Беларускую Раду.

Урэшце каля 20-га сакавіка віленцам удалося дабіцца сувязі з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі.— Пасьля ўзаемных інформацыяў выясьнілася, што чарадным этапам беларускага нацыянальна-палітычнага руху павінна быць незабаўнае абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнай дзяржавай.

Раньнім вечарам 24 сакавіка 1918 г. пачалося памятнае паседжаньне Рады Рэспублікі, якое закончылася раніцай 25 сакавіка 1918 г. На паседжаньні быў уложаны тэкст „Устаноўчае Граматы“, дзе чытаем паміж іншым:

„Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму... Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і вольнай Дзяржавай“...

Гэты важны дакумэнт зьяўляецца выражэньнем сільнага імкненьня прыгнечанага вякамі народу да волі і самастойнага жыцьця.

Нажаль, восемнаццаць гадоў назад не ўдалося зьдзейсьніць гэтага імкненьня. Затрашчэлі кулямёты, накіроўваючы свае стрэлы ў грудзі незалежнікаў і расьсяваючы іх прыгожыя сны, а адказаць ім ня было чым. Слуцкае паўстаньне прыйшло запозна. Не памаглі гэроічныя высілкі. Рыская ўмова бязжаласна разрэзала жывы беларускі арганізм на дзьве часткі. На месца радасных надзеяў прыйшло жорсткае расчараваньне.

Сьпярша пацехай для беларусаў была створаная ў 1919 г. „незалежная“ Беларуская Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка, зьвязаная „дабравольнай“ фэдэрацыяй з СССР. Там вялася шырокая культурная праца, разьвівалася літэратура і мастацтва і г. д. Здавалася, што на ўсходзе будуецца новы „беларускі дом“. Але і тут наступіла расчараваньне: нечаканая рэакцыя, якая ад 1928 г. пачала змагацца з усім, што беларускае, збурыла ўсе „усходнія“ надзеі сьведамых беларусаў.

Калі-ж кінем вокам на нашае жыцьцё тут, у Польшчы, дык пабачым, што, не зважаючы на нашае цяжкое палажэньне, якраз тут можа захавацца тая цэгліна, якая пазволіць нам у будучыні збудаваць беларускі культурна-нацыянальны дом.

Аднак, зразумела, што беларуская палітыка павінна пакладаць надзеі перадусім на сілы свайго народу каторыя ён выказаў, адважыўшыся галасна дамагацца ад сьвету сваіх правоў. І вось якраз тут выяўляецца ўся важнасьць акту з 25.III-1918 г.

Праўда, трэба лічыцца з сапраўднасьцю і зразумець, што для гэтага трэба шмат працы, ідучай, перадусімь у кірунку культурнага і эканамічнага разьвіцьця нашых земляў.

Гэта элемэнтарныя патрэбы сучастнасьці. Будучыня — напэўна выкажа іх больш.



## Вайсковая павіннасьць у Аўстрыі.

Як паведамляюць газэты, старшыня Фэдэральнага парляманту абвесьціў тэкст законапраэкту аб увядзеньні для ўсіх грамадзянаў Аўстрыі ў веку ад 18 да 42 гадоў „абавязкавай дзяржаўнай службы з аружжам або без яго“. Законапраэкт прыняты аднагалосна.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

